# Наша Свабода

№7 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

17 САКАВІКА 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## З праспектаў – на перамовы

Пасля «Маршу Свабоды-2» палітычная ініцыятыва ў руках апазіцыі. Нельга ўпусціць гэты спрыяльны момант

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

**Даючы пачатковы аналіз вынікаў «Маршу Свабоды-2», трэба адзначыць некалькі істотных аспектаў.**

Па-першае. Акцыя прайшла арганізавана, без эксцэсаў і інцыдэнтаў. Напярэдадні Маршу для рэжыму Лукашэнкі стварылася надзвычай неспрыяльная знешнепалітычная сітуацыя – рашучая заява Дзярждэпа ЗША, больш жорсткая пазіцыя еўрапейскіх структураў. Падчас свайго візіту ў Беларусь у пачатку тыдня пасланнік Дзярждэпартамента Рос Уілсан вельмі выразна і канкрэтна патлумачыў: «Калі ў бліжэйшыя тыдні ў Беларусі не адбудуцца пэўныя змены ў паляпшэнні палітычнага клімату, ЗША адменяць статус найбольшага спрыяння ў гандлі з Беларуссю». А гэта, паводле некаторых ацэнак, каля 80 мільёнаў долараў стратаў для беларускай эканомікі.

Відавочна, менавіта знешні фактар прымусіў беларускія ўлады даць загад праваахоўным органам: «Не чапаць!» «Не дадзім ім (апазіцыянерам) стварыць «карцінку», — вырашылі ў адміністрацыі. Але, па-першае, «карцінка» дзесяткаў тысяч людзей, якія запаланілі галоўны праспект сталіцы, і так прайшла па ўсіх тэлекампаніях свету, а па-другое, усім стала відавочна, што сутыкненні здараюцца толькі тады, калі іх «арганізуюць» улады. («Вось тут вашыя камяні, вось тут нашыя міліцыянты – запрашаем да бойкі»). На гэты раз кардоны не выстаўлялі, камяні на вуліцы не раскладвалі (нават рамонт асфальту на вул.Сурганава тэрмінова завершылі), правакатары з натоўпу вокнаў не білі, — таму сутыкненняў і не было. 30-тысячнае шэсце бездакорна слухалася арганізатараў, паказаўшы сваю арганізаванасць і – без высокіх словаў – палітычную культуру. (У мяне адзіная заўвага да арганізатараў – пры ўсёй павазе да іх палымяных прамоваў мітынг не варта было так зацягваць: для моладзі, што складала ці не палову ўдзельнікаў, песні NRM больш хітовыя за іхнія палітычныя заклікі).

Па-другое. Тое, што нават ва ўмовах такога кепскага надвор'я вечарам працоўнага дня на акцыю прыйшло столькі людзей, магчыма, сведчыць пра тэндэнцыю пэўнай змены грамадскіх настрояў. Пасля Маршу палітычная і ідэалагічная ініцыятыва цяпер у руках апазіцыі, масавасць шэсця – добры козыр як для яе, так і для міжнароднай супольнасці. Улады не чакалі такой актыўнасці і відавочна збянтэжаныя. Не варта, аднак, чакаць, што падобны стан працягнецца доўга. (Ужо пачалася моцная інфармацыйная вайна, аднак пазіцыя ўлады тут не надзейная і прыступная (уязвимая) – ім няма за што прычапіцца да арганізатараў Маршу).

Трэба як мага хутчэй выкарыстоўваць гэты спрыяльны момант, каб «выціснуць» з яго максімум магчымага. Не варта, зразумела, спадзявацца, што заўтра рэжым абрынецца – але варта праводзіць тактыку малых крокаў. На маю думку, не трэба чакаць акцыі 25 сакавіка, каб «развіць поспех» — менавіта цяпер самы час патрабаваць і дабівацца пэўных маленькіх перамогаў. ■

# Марш Свабоды у Дзень Канстытуцыі



Фота Ул.ШЛАГАКА

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**15 сакавіка на першую веснавую акцыю аб'яднанай апазіцыі «Марш Свабоды-2» выйшла каля 50 тысяч чалавек.**

Відавочна, што рэжым спалохаўся. Лукашэнка ў палаце прадстаўнікоў больш за паўгадзіны лаяў арганізатараў Маршу, апазіцыю і міжнародных назіральнікаў. Нічога іншага ён не мог – надта пільную ўвагу да гэтай акцыі праявіла міжнародная супольнасць. У падтрымку акцыі заявы зрабілі Дзяржаўны дэпартамент ЗША, Белы дом, «Міжнародная амністыя» і інш. Усе яны папярэдзілі рэжым пра адказнасць за магчымыя сілавыя меры супраць дэманстрацыяў «Вясны-2000».

Сцэнар быў прадуманы і вясёлы . У час збору дэманстрантаў на пляцы стылізаваныя стодоларавыя купюры з эмблемай «Маршу» з аднаго боку і надпісам «Удзельніка «Маршу Свабоды-2» -- з другога. Гэтак арганізатары адрэагавалі на паклёп Беларускага тэлебачання пра тое, што быццам удзельнікам апазіцыйных мітынгаў раздаюць валюту. На ўсіх жадаючых «грошай» не хапіла... Гавораць, што раздалі мільён. Як заўсёды, адзначылася газета «Навінкі», якая прадставіла публіцы чалавека, падобнага на Лукашэнку, які бег па плошчы Якуба Коласа абуты ў... лыжы. Праз хвіліну санітары з тых жа «Навінак» яго «павязалі».

У чвэрць сёмага калона ўдзельнікаў рушыла на праспект Францішка Скарыны. Людзей было так шмат, што дружына арганізатараў мерапрыемства не адразу ўзяла калону, як планавалася, у простакутнік з мэтаю захавання парадку. Калі першы шэраг ужо набліжаўся да Акадэміі навук, «хвост» яшчэ не пакінуў месца збору. Нават міліцыянеры казалі, што так многа людзей яшчэ не было.

У гэты час журналісты з БТ ставілі «спектакль» на адным з прыпынкаў грамадскага транспарту. З БТ-шнага «Рафіка» вылезлі не толькі самі «чэсныя» журналісты, але і героі іхняга рэпартажу. Праз хвіліну яны ўжо распавядалі пра тое, як жа ім дрэнна, калі ў горадзе дэманстрацыя, «не прайсці табе – не праехаць». Пасля здымак гэтак жа дружна група пакінула мерапрыемства, паехаўшы перадаваць чарговую хлусню пра паўтары тысячы экстрэмістаў.

Адзіны эпізод, які адбыўся падчас акцыі, здарыўся з прадстаўнікамі расійскага тэлеканала НТБ. Студэнт геаграфічнага факультэта БДУ Сяргей Казлоў ударыў карэспандэнта НТБ Аляксандра Калпакова. Казлоў быў затрыманы і змешчаны ў Савецкі РАУС Мінска. У адносінах да студэнта ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле «хуліганства».

Напярэдадні Маршу, як вядома, на яго былі запрошаныя шматлікія міжнародныя назіральнікі. Аднак улады ўсімі шляхамі перашкаджалі іх прыезду – так, дэлегацыя парламентарыяў і прадстаўнікоў грамадскіх арганізацыяў Швецыі не атрымала беларускія візы.

На «Маршы Свабоды» прысутнічалі прадстаўнік праваабарончай арганізацыі *Amnesty International* Мэцці Прынгл, прадстаўнікі чэскай праваабарончай арганізацыі «*People in Need*» (Людзі ў бядзе) і інш. Акрамя шматлікіх міжнародных назіральнікаў, увесь шлях «Маршу Свабоды-2» прайшлі амбасадар ЗША Дэніэл Спекхард і кіраўнік кансультатыўна-наглядальнай групы АБСЕ Ханс-Георг Вік.

Акцыя асвятлялася буйнейшымі сусветнымі СМІ – тэлевізійнымі кампаніямі, агенцтвамі і друкаванымі выданнямі. На іх фоне, мякка кажучы, дзіўна выглядаў расійскі тэлеканал ГРТ, які ўвогуле ігнараваў Марш.

Нягледзячы на сакавіцкі холад, людзі мужна дачакаліся пачатку мітынгу, які дзякуючы кемлівасці арганізатараў быў зусім нядоўгі. Прадстаўнікі ад кожнай з партыяў выступілі перад людзьмі, якія бесперапынна скандавалі «Жыве Беларусь!» і а палове дзевятай саступілі месца музыкантам з рок-гурта NRM. Тут пэўная частка прысутных, у асноўным людзі сярэдняга ўзросту, пачалі разыходзіцца, утварыўшы доўгі, знікаючы ланцужок. А моладзь слухала выступленне гурта NRM-аўцаў, а пасля рок-караля 1998 года – гурт «Нейра Дзюбель».

Трэба адзначыць, што ў натоўпе была раздадзеная вялікая колькасць запрашэнняў на акцыю апазіцыі «Дзень Волі», якую мяркуецца правесці 25 сакавіка. Там таксама плануюцца шэсце і канцэрт. Увогуле ж уразіла атмасфера свята, якая вітала ў натоўпе. Адсутнасць у ім міліцыянтаў разняволіла людзей. Між тым, адсутнасць міліцыі, якая, праўда, трымалася ў падваротнях у цэнтры горада, ніяк не паўплывала на пагаршэнне грамадскага парадку. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Падпісаны кантракт аб пастаўках у Туркменістан 2 тысяч беларускіх трактараў.** Такім вынікам скончыўся візіт у Беларусь намесніка старшыні кабінета міністраў Туркменістана Рэджэпа Сапарава.

■ **У адпаведнасці з міжнародным Дагаворам па адкрытым небе беларускія і расійскія ваенныя спецыялісты пачалі трэніровачныя аблёты шэрагу тэрыторыяў дзвюх краінаў на самалёце АН-30Б.** У склад беларускай групы ўваходзяць спецыялісты Нацыянальнага агенцтва па кантролі і інспекцыях мінабароны і афіцэры Ваенна-паветраных сілаў. Сумесныя палёты працягнуцца да 17 сакавіка.

■ **Судовы працэс па справе расійскага бізнесмена з Сургута набліжаецца да завяршэння: 23-24 сакавіка яму можа быць вынесены прыгавор.** Пра гэта паведаміла адвакатка падсуднага Вера Страмкоўская. Гэтую інфармацыю пацвердзіў і старшыня Светлагарскага раённага суда, дзе з 21 лютага і праходзіць працэс над А.Сілівончыкам. Налёт на вёску Мікалаеўка Светлагорскага раёна ў канцы мінулага чэрвеня 120 «баевікоў» з сургуцкай ваенізаванай школы выжывання «Беркут» (гэтую аперацыю якраз і фінансаваў Анатоль Сілівончык) можа дорага абысціся расійскаму бізнесмену. А.Сілівончыку інкрымінуецца парушэнне адразу трох артыкулаў Крымінальнага кодэкса: захоп закладнікаў, супраціўленне работнікам міліцыі і злосным хуліганстве з асаблівым цынізмам і прымяненнем халоднай і агнястрэльнай зброі. За ўчыненыя злачынствы суд можа прыгаварыць сургуцкага прадпрымальніка да 7 гадоў пазбаўлення волі. Сам Анатоль Сілівончык ужо зараз настроены абскардзіць прыгавор, бо ў ходзе следства і суда парушаныя шматлікія ягоныя правы, у тым ліку і права на абарону. Амаль з самага пачатку судовага працэсу А.Сілівончыка не дапускаюць у залу суда – гэта таксама парушэнне права падсуднага на дачу паказанняў. У чаканні прыгавору Анатоль Сілівончык знаходзіцца ў Гомельскім следчым ізалятары.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**880**

## Паважаныя чытачы!

### Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА абвяшчае падпіску на II квартал 2000 г.

Вы зможаце атрымоўваць нашу газету з красавіка 2000 г., калі пералічыце паштовым пераводам падпісную суму на адзін (675 руб.), два (1350 руб.) або тры (2025 руб.) месяцы на разліковы рахунак редакцыі: **3012205160015 у аддзяленні «Цэнтральнае» ААТ «Белбізнесбанк» г.Мінска, код 493. Адрас: 220123, г.Мінск, п/с 103. Атрымальнік плацяжу: Рэдакцыя газеты «Наша Свабода».**

У графе **«для пісьмовага паведамлення» адзначце свой паштовы адрас, укажыце, з якога месяца і на які тэрмін Вы афармляеце падпіску.**

Паштовы перавод, які можна зрабіць у любым аддзяленні сувязі краіны ў любы час, забяспечыць вам дастаўку газеты з пачатку наступнага каляндарнага месяца.

Падпісчыкам газеты НАВІНЫ, што прыслалі ў рэдакцыю копіі сваіх падпісных купонаў, якія афармілі падпіску на 2-ое паўгоддзе 1999 г. з ліпеня, жніўня або верасня 1999 г., газета НАША СВАБОДА будзе дастаўляцца бясплатна. Рэдакцыя дзякуе ўсім, хто быў з намі гэтыя месяцы, за падтрымку і давер, завярае, што мы зробім усё, што ад нас залежыць, каб НАША СВАБОДА беспярэбойна і своечасова дастаўлялася як новым, так і сталым нашым падпісчыкам.



## Прыклад для перайманя

Кастусь ТАРАСАЎ

Традыцыйная пакаянная служба «Mea culpa», якую правеў 12 сакавіка Папа Рымскі Іаан Павел II, безумоўна, увойдзе ў гісторыю хрысціянства і ў сусветную гісторыю ўвогуле. Папа пакаяўся ў сямі грахах, учыненых Рымска-каталіцкай царквой за тысячагоддзі яе існавання. Іаан Павел II прасіў прабачэння ў Бога за парушэнні царквой Евангельскіх запаветаў. Яны парушаліся нецярпімасцю і насіллем у адносінах да іншадумцаў, удзеламу рэлігійных войнах, грахамі, што разбуралі адзінства хрысціянства, тысячагадовай непрыязнасцю да яўрэяў, непавагай да іншых рэлігіяў, грахамі супраць асобных расаў і народаў.

Вуснамі Іаана Паўла II Рымска-каталіцкая царква прызнала вінаватасць інстытуцыянальнай установы, якая пасярэднічае паміж Богам і людзьмі, непагрэшнасць якой не магла ставіцца пад сумнеў. Гэты мужны ўчынак выходзіць далёка за межы канкрэтных грахоў інквізітараў, місіянераў, неправедных святароў. Упершыню Папа «калектыўным пакаяннем» прымусіў царкву ўбачыць сваю дзейнасць у святле адпаведнасці запаветам Ісуса Хрыста.

Пакаянне Рымска-каталіцкай царквы стварыла прэцэдэнт, зважаць на які будуць змушаныя іншыя хрысціянскія цэрквы, у першую чаргу праваслаўная, якая мае не менш падставаў прасіць у Бога прабачэння за парушаную вернасць Евангельскаму вучэнню. Праўда, у адрозненне ад каталіцкай царквы, якая мае адзінага ачольніка, праваслаўных цэркваў пятнаццаць, таму выпрацаваць агульны пагляд на грахі перад Богам сабор патрыярхаў наўрад ці здолее. Але на фоне гістарычнага ўчынку Папы Рымскага не зашкодзіла б зрабіць тое самае ачольніку самай вялікай з праваслаўных аўтакефаліяў – патрыярху Рускай праваслаўнай царквы. На сумленні РПЦ ляжаць тыя самыя грахі супраць Бога. Толькі на падставе беларускай гісторыі грахі РПЦ можна акрэсліць як блаславенне расійскай захопніцкай палітыкі, пашырэнне памеснай тэрыторыі з выкарыстаннем дзяржавы, знявага мовы карэнных народаў на тэрыторыі экзархатаў, непрыязнасць да яўрэяў, ухваленне прыгнёту, падтрымка несправядлівасцяў улады, прапаведзь рэлігійнай нецярпімасці, нецярпімасць да іншадумцаў, заняцце храмаў, якія належалі іншым канфесіям, і г. д.

Цікава, ці хопіць у РПЦ смеласці пакаяцца перад Богам хоць бы за грахі на тэрыторыі свайго Беларускага экзархата?

# Геаграфія з Канстытуцыяй

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Новае геаграфічнае адкрыццё зрабіў старшыня палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Беларусі, былы першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў. На прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню Канстытуцыі 15 сакавіка, ён заявіў літаральна наступнае: «Мы (палата прадстаўнікоў – Р.П.) прынялі 16 кодэксаў. У тым ліку – кодэкс аб гандлёвым мораплаванні... Ужо час нам выходзіць на прыбярэжныя моры і акіяны!»**

На жаль, шматлікія моры і акіяны, што амываюць берагі Беларусі, існуюць толькі ва ўяўленні старшыні палаты прадстаўнікоў. Відаць, былы марак (у А.Малафеева на кісці наколаты вялікі якар) дагэтуль марыць пра буйныя водныя прасторы.

Цікава, што на гэтым показкі абазнанага ў геаграфіі «спікера» не скончыліся. Па яго-ных словах, у сярэдзіне 1996 года ў Беларусі склалася крытычная сітуацыя – з-за таго, што «не было ніякай сбалансаванасці паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі. Нягледзячы на тое, што гэта была прэзідэнцкая рэспубліка, Вярхоўны Савет поўнасцю меў усе правы, усе паўнамоцтвы прыняцця рашэнняў літаральна ўсіх пытанняў. А адказнасці не было».

Паводле версіі Анатоля Малафеева, пакуль не адбыўся рэферэндум, уся ўлада ў Беларусі была ўзурпаваная Вярхоўным Саветам. Таму прэзідэнт быў проста вымушаны правесці рэферэндум, каб збалансаваць сістэму ўзаемадзеяння выканаўчай і заканадаўчай улад.

Пасля цудоўнага пераўтварэння Вярхоўнага Савета ў Нацыянальны сход, падчас якога колькасць дэпутатаў знізілася, паўнамоцтвы парламента былі абрэзаныя «па жывым» і сталі па большасці дэкаратыўныя, сам парламент быў дадаткова падзелены на дзве палаты – ён раптам стаў працаваць вельмі эфектыўна і паявілячаць народны дабрабыт. Так сцвярджае Анатоль Малафееў, а ён няпраўду не скажа – бо сам быў дэпутатам ВС, а цяпер нават стаіць на чале ПП НС.

Вось, дарэчы, што Малафееў кажа пра той самы працэс кастрацыі паўнамоцтваў: «Што датычыць палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу, то, канешне, у яе няма тых правоў, тых паўнамоцтваў, якія меў Вярхоўны Савет. Але ж я вам прама скажу: нам непатрэбныя тыя правы і тыя паўнамоцтвы». Вось так. Не трэба, не даспелі яшчэ.

На заканчэнне прэс-канферэнцыі А.Малафееў павіншаваў усіх са святам Канстытуцыі і пажадаў добра за яе выпіць. Аднак зазначыў, што рабіць Дзень Канстытуцыі святочным не варта – прамысловасць не вытрымае такой колькасці дзяржаўных святаў. ■

# Прадпрымальнікаў выціскаюць з рынку

Берта БАСОЎСКАЯ



Фота REX/ProMedia

Да 15 красавіка колькасць прадпрымальнікаў, што гандлююць на Камароўцы, павінна зменшыцца ўдвая. Менавіта з гэтай даты «Пратакол аб нармалізацыі абстаноўкі на дзяржаўным прадпрыемстве «Мінскі Камароўскі рынак» забараняе продаж прамысловых тавараў з прылаўкаў 1, 2, 3 і 4 гандлёвых сектараў. 1 красавіка абязлюдзеюць гандлёва-транспартныя пляцоўкі рынку, дзе звычайна пакупнікі набывалі танную садавіну, бакалейныя тавары. Пасля заканчэння тэрыторыі пачнецца рэканструкцыя Камароўкі.

Па інфармацыі Мінскага тэрытарыяльнага камітэта прадпрымальніцтва і інвестыцыяў, галоўная прычына гэтага рашэння чыноўнікаў – стварэнне бяспечных умоваў гандлю. Цяпер загружанасць рынку ў паўтара разы перавысіла яго праектную магутнасць. Замест 3.144 працоўных месцаў, што былі запраектаваныя ў 1969 годзе, зараз на Камароўцы рэальна існуе 5.320.

У сувязі з гэтым прадпрымальнікам і прапанавалі з'ехаць на іншыя рынкі, патлумачылі адказныя супрацоўнікі камітэта. У ліку альтэрнатывы выступалі стадыён «Трактар», пляцоўка ў Малінаўцы і новы кірмаш «Аквабел», які ствараецца на тэрыторыі аднайменнага міжнароднага выставачнага цэнтра. Яго плануецца адчыніць менавіта 15 красавіка.

Тое, што прадпрымальнікі ціха пайсці з Камароўкі не згадзіліся і 15 сакавіка наладзілі дэманстрацыйную акцыю пратэсту, абурае чыноўнікаў, якія нібыта ўсё робяць дзеля простых пакупнікоў. Дададзім, што пры гэтым пагляд саміх «простых» нікога не цікавіць. Між тым, камароўскія гандляры спажыўцы падтрымліваюць. Падчас папераджальнай забастоўкі было сабрана больш за 3 тысячы подпісаў пакупнікоў, якія завіталі на Камароўку ў гэты дзень. ■

# «Ценявы кабінет» мае свой план развіцця Беларусі

Рыгор БУЯН

**Група экспертаў ценявога кабінета міністраў – Нацыянальнага выканаўчага камітэта распрацавала праект дакумента «Стратэгія для Беларусі. Канцэпцыя нацыянальнага развіцця». Праект ужо раздадзены для азнаямлення беларускім і замежным палітыкам ды навукоўцам. Разгляд гэтага дакумента ў першым чытанні пройдзе на міжнароднай канферэнцыі 18 сакавіка ў Міжнародным адукацыйным цэнтры. Пасля апрацоўкі атрыманых заўвагаў і папраўак эксперты будуць дапрацоўваць дакумент.**

«Стратэгія для Беларусі» задуманая як альтэрнатыва афіцыйнаму курсу развіцця рэспублікі.

Кіраўнік праекта, старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта Мечыслаў Грыб гаворыць, што дакумент складаецца з трох асобных раздзелаў. «Першая частка – гэта Беларусь сёння; мы даем характарыстыку эканамічнага, палітычнага, канстытуцыйнага становішча краіны – ва ўсіх названых сферах Беларусь перажывае крызіс. Другі раздзел – гэта нашае бачанне перспектыў развіцця і шляхоў іх дасягнення. Мы прапануем устанавіць дэмакратыю, аднавіць правы заканадаўчай улады і раўнавагу ўсіх галінаў улады. У трэцім раздзеле мы прапануем канкрэтныя механізмы дасягнення пастаўленых мэтаў. Мы хочам вярнуцца да дэмакратыі. Але дэмакратыя ў нашым разуменні – гэта рашэнне большасці, але з безумоўным улікам інтарэсаў меншасці – гэта не дыктат. На першы план мы таксама ставім вырашэнне эканамічных праблемаў, а гэта азначае пераход да рынкавай эканомікі: трэба даць магчымасць людзям займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю, прыняць заканадаўства аб прыватнай уласнасці на зямлю – калі гэта ўдасца; калі не ўдасца – даць людзям магчымасць арандаваць зямлю на працяглы тэрмін – на 99 гадоў, як гэта прынята. І абавязкова трэба знайсці сваё месца ў Еўропе, абавязкова ў Еўропе, падтрымліваючы пры гэтым добрыя адносіны з суседзямі, у тым ліку і з Расіяй». Так коратка ахарактарызаваў сваё дзецішча Мечыслаў Грыб.

«Мы хацелі б, каб гэтая нашая канцэпцыя стала платформаю, праграмаю дзеяння палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў, і не толькі тых, хто выступае супраць уладаў. Перш за ўсё для нас вельмі важна, каб гэтую праграму падтрымалі людзі, якія цяпер больш маўчаць», – дадаў Мечыслаў Грыб. Праўда, надзею на безумоўнае прыняцце «Стратэгіі для Беларусі» апазіцыяй старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта не мае. Але ён цвёрда перакананы, што «не трэба сёння сядзець і чакаць, калі прыйдзе час, і тады ты ўсё схопіш і пабяжыш; трэба рыхтавацца да гэтага, каб усё было падрыхтавана, зроблена...» ■

# «Бізоны» на мяжы

Сяргей МАКСІМОВІЧ

Заходнюю мяжу ў Брузгах Гродзенскага раёна пераехала калона з 26 новымі камбайнамі заходняй маркі *Bison*, якія збіраюцца ў Польшчы. Агульны кошт тэхнікі – паўтара мільёна долараў.

Гродзенскія ўлады спадзяюцца з іх дапамогай правесці наступную «бітву за ўраджай». Збожжаўборачнай тэхніцы беларускай і, асабліва, расійскай вытворчасці яны не давяраюць з-за яе нізкай якасці і высокага кошту. Тым часам старшыня аблвыканкама А.Дубко публічна заявіў, што «Гомсельмаш» трэба паставіць «пад плот» і купляць за валюту нямецкія «Ягуары». Маўляў, адзін нямецкі камбайн замяняе ажно пятнаццаць гомельскіх. ■

# Жадность до добра не доводит

Вера КМИТИЧ

Подпольная мастерская по производству фальшивых белорусских денег была открыта сотрудниками правоохранительных органов в одной из квартир в микрорайоне «Юбилейный» в Могилеве.

20-летний неработающий могилевец прямо со своего домашнего компьютера распечатывал на цветном струйном принтере 5-миллионные купюры, очень похожие на настоящие. Сколько фальшивок было изготовлено таким способом, пока установить не удалось, но, судя по количеству обнаруженных в квартире заготовок, работа шла полным ходом. Сейчас оперативники занялись выявлением других членов преступной группы. ■

# Калякін едзе па французскі вопыт

Першы сакратар ЦК Партыі камуністаў (ПКБ) Сяргей Калякін днямі выправіцца ў Францыю, дзе з 23 па 26 сакавіка пройдзе 30-ы з'езд Французскай камуністычнай партыі. Апрача беларускіх камуністаў, туды запрошаныя прадстаўнікі больш за 50 кампартыяў свету. «Я лічу, што будзе карысна там пабываць: вопыт французскай кампартыі, якая з'яўляецца традыцыйна моцнай у Еўропе, і яе погляды на праблемы будаўніцтва камунізму многае могуць даць», – лічыць Сяргей Калякін. ■

Р.Б.

# Тарыфы не спяць

З 16 сакавіка павялічаны тарыфы на некаторыя паслугі электрасувязі. Зараз прыхільнікам працяглых тэлефонных размоваў з замежнымі сябрамі, роднымі ці калегамі прыйдзецца плаціць больш пільна сачыць за гадзіннікам. Як стала вядома карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ, хвіліна міжнародных перамоваў стала даражэй на 8 адсоткаў. На столькі ж падскочыў кошт і ў інтэрнэтпаслугаў дзяржаўнага аб'яднання «Белтэлекам». Таксама падаражэла электронная пошта. Што ж тычыцца тарыфаў на мясцовыя тэлефонныя размовы, то яны, запэўнілі ў міністэрстве сувязі, засталіся на старым узроўні. ■

# За кошт атэістаў і агностыкаў

Леанід СІМАНАЎ

15 сакавіка, у Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, старшыня абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Генадзь Муратаў указаў на дапушчанае Віцебскім гарсаветам дэпутатаў парушэнне замацаванага ў артыкуле 31 Канстытуцыі права кожнага грамадзяніна «самастойна вызначаць сваё стаўленне да рэлігіі». Выдаткаваўшы 5 мільёнаў «новых» рублёў з сумы збору на ўтрыманне і развіццё гарадской інфраструктуры на будаўніцтва праваслаўнага Свята-Успенскага кафедральнага сабора, гарсавет замахнуўся на канстытуцыйнае права кожнага падаткаплацельшчыка, вернік ён або атэіст, самому вырашаць пытанне аб царкоўных ахвяраваннях.

Даходную частку бюджэту на 2000 год складаюць падаткі і зборы не толькі з праваслаўных жыхароў Віцебска, але і з каталікоў, пратэстантаў, іўдзеяў, мусульманаў, прадстаўнікоў іншых веравызнанняў. ■

# Грамадскі працэс па Чачні

Вольга АНЦЫПОВІЧ

Маладыя людзі, якія называюць сябе Маладым Фронтам, заявілі пра падрыхтоўку грамадскага працэсу: «Барацьба за незалежнасць і генацыд: праўда супраць хлусні». Плануецца, што ён пройдзе 18 сакавіка ў 15.30 на Управе БНФ «Адраджэньне» (вул. Варвашэні, 8). Працэс будзе складацца з выступаў людзей, якія прадстаўляюць пазіцыю расійскага і чачэнскага бакоў, паказанняў сведак, у якасці якіх выступяць журналісты, якія працавалі ў зоне баявых дзеянняў, вайскоўцы, праваабаронцы, а таксама выказванняў свайго меркавання па чачэнскай праблематыцы членаў журы. Ужо зараз вядома, што ў яго склад увойдуць даволі вядомыя беларускія палітыкі і грамадскія дзеячы: С.Шушкевіч, Ю.Хадыка, В.Сіўчык, Ю.Беленькі, Г.Грушавы, А.Лябедзька і інш.

«Грамадскі працэс – гэта спроба беларускага грамадства, беларускай моладзі самім разабрацца ў тым, што насамрэч адбываецца ў Чачні, – заявіў Павел Севярынец, старшыня маладафронтаўцаў. – Калі інфармацыйная вайна ў разгары, патрабуецца момант ісціны, хаця б тыя сведчанні, якія могуць даць беларускія журналісты, вайскоўцы, праваабаронцы. Мы спрабуем усвядоміць, што такое імперыя, што такое вайна на парозе 3 тысячагоддзя, што такое, урэшце, генацыд і страх, бо адчуць сутнасць гэтага зла вострa і да самай глыбіні душы беларусам вельмі важна менавіта сёння, калі фактычна вырашаецца будучыня нашай краіны».

А на 17 і 18 сакавіка ініцыятары грамадскага працэсу атрымалі дазвол з Мінгарвыканкама на правядзенне пікетаў пад лозунгамі: «Не – генацыду чачэнскага народа» і «Спыніць расійскую агрэсію ў Чачні». Яны будуць праходзіць з 14 да 16 гадзінаў на вуліцы Старажоўская, 8. ■

# Справа Чыгіра рассыпаецца

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Працэс над экс-прэм'ерам Міхаілам Чыгіром зноў дэманструе, што супраць палітычных сапернікаў улады Беларусі выкарыстоўваюць метады фальсіфікацыі і незаконнага пераследу.**

Фармальна працэс над Міхаілам Чыгіром ідзе ўжо дастаткова часу – больш двух месяцаў, але фактычна разбіраць справу суддзі пачалі не больш двух тыдняў таму. Хоць два тыдні і малы час, але для некаторых з прысутных у зале і яго аказалася дастаткова, каб паставіць пад сумнеў вылучаныя супраць Міхаіла Чыгіра абвінавачванні.

## «Персідскія матывы»

Усяго ў справе Чыгіра пяць вялікіх эпізодаў, а некаторыя з іх у сваю чаргу распадаюцца на падэпізоды, таму колькасць выяўленых следчымі «злачынстваў» экс-прэм'ера можа быць і большай. Цікавей глядзець не за колькасцю, а за якасцю. Эпізод з крэдытам для фірмы МСТ – проста шэдэўр «мастацтва» следчых. Калі-небудзь гэты эпізод будзе ўнесены ў спецыяльныя падручнікі, але пакуль проста паслухаем грамадзяніна Сяргея Персідскіх, былога дырэктара фірмы МСТ.

Вось што ён казаў на судзе ў мінулую пятніцу. Падчас чыгіроўскага кіравання Белаграпрамбанкам фірма Персідскіх атрымала ў Белаграпрамбанку крэдыт – ажно 200 тысяч долараў. Застрахаваны крэдыт быў Белдзяржстрахам, больш таго – грошы пад крэдыт даваліся фірме МСТ з дэпазітнага рахунку Белдзяржстраха, які з'яўляўся кліентам Белаграпрамбанка. Гэты факт банкіры потым назавуць вырашальным пры прыняцці рашэння аб выдачы крэдыту. Увогуле сведкі з банка кажуць, што крэдыт выдаваўся паводле ўсіх правілаў. А вось Персідскіх заўважае, што без дапамогі знаёмага супрацоўніка банка не абышлося. Толькі гэта быў не ягоны знаёмы, сцвярджаў Персідскіх, а знаёмы прадпрымальніка Корбы. Той, маўляў, дамовіўся пра крэдыт, таму яму і былі перададзеныя грошы, якія ён не вярнуў. Гэты Корба, паведаміў сведка Персідскіх, шмат яшчэ дзе набраў крэдытаў, усяго на 850 тысяч, іх таксама не аддаў, быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў. На следстве ён прызнаў, што атрымаў ад Персідскіх 200 тысяч долараў з Белаграпрамбанка ды і «спусціў» іх невядома дзе.

Вось такая гісторыя. Адзін грошы ў банку ўзяў, другі іх растраціў, а вінаваты, па версіі следства, трэці – Міхаіл Чыгір. Чаму да дырэктара МСТ Персідскіх у следчых няма ніякіх прэтэнзіяў, чаму яму адведзеная роля сведкі, а не абвінавачанага – незразумела . Як незразумела і тое, чаму следчыя не высветлілі, куды падзеліся 200 тысяч долараў і што за чалавек , калі верыць Персідскіх, дапамагаў атрымаць у банку крэдыт.

## Куды падзеліся джыпы?

Не менш паказальны эпізод з крэдытам фірме БелОСТ. Яшчэ ў 1993 годзе гэтая фірма, якой кіраваў Мікалай Пацееў, атрымала ў Белаграпрамбанку крэдыт у 900 тысяч долараў. На гэтыя грошы былі купленыя ў Паўднёвай Карэі 53 джыпы «Галопер». БелОСТ меркаваў прадаць машыны ў Расіі, але раптам падвысіліся мытныя плацяжы, і ад гэтых планаў давялося адмовіцца, тлумачыў сведка Пацееў. Усё далейшае – пра тое, як ягоная фірма спрабавала прадаць тыя няшчасныя джыпы. Частка з іх апынулася ў Туркменіі, і толькі праз шмат часу за іх удалося атрымаць грошы (гэтага дамагліся ў тым ліку і намаганнямі Чыгіра, калі ён працаваў ужо прэм'ерам). Яшчэ некалькі джыпаў дасталося банку як кампенсацыя за страты, але частка знікла, і таму ўвесь крэдыт дагэтуль не вернуты. А вось куды падзеліся гэтыя джыпы – цэлы дэтэктыў. Яго старанна выкладаў суду былы кіраўнік БелОСТ сведка Мікалай Пацееў. Згодна з ягонымі паказаннямі, у якасці дылера па Гродзенскай вобласці яму была парэкамендавана фірма «Юніс-Бел» пад кіраўніцтвам нейкага Шпіндлера. Гэта потым стала вядома, што Шпіндлер раней быў судзімы, а тады для мінскіх прадпрымальнікаў галоўным было тое, што адным з заснавальнікаў «Юніс-Бела» было падраздзяленне гродзенскай міліцыі. Такім салідным партнёрам можна давяраць, палічыў Пацееў і распарадзіўся адправіць некалькі джыпаў без перадаплаты для продажу ў Гродна. Мінуў час, джыпы «Юніс-Бел» прадаў, вось толькі грошы за іх БелОСТу так і не прыйшлі. Але самае дзіўнае ў гэтай гісторыі – рэакцыя гродзенскіх следчых органаў, якім Пацееў паскардзіўся на нядобрасумленных партнёраў. Далей абяцанняў узбудзіць справу не ішло. Мінуў год, і толькі потым , калі ўсе джыпы канчаткова згубіліся, міліцыя заварушылася і арыштавала Шпіндлера. І то, як лічыць Пацееў, не па ягонай скарзе, а таму, што кіраўнік «Юніс-Бела» гэтак жа «кінуў» адну мінскую фірму, якой патраніруюць вельмі ўплывовыя ў краіне асобы (сведка іх не назваў).



Фота Ул.ШЛАПАКА

Вынік першы. Джыпы, што адправіліся ў Гродна, так і не знайшліся, хаця адшукаць іх было магчыма, гэта не іголка, да таго ж скралі не адну машыну, а цэлую партыю. І недасведчанаму назіральніку бачна, што па-сапраўднаму джыпы не шукалі з нейкай канкрэтнай прычыны. Напрыклад, таму, што яны аказаліся ў некага з гродзенскіх сілавікоў, які не жадаў агалоскі гэтай гісторыі. Яшчэ два вынікі – дагэтуль непагашаная частка крэдыту і нелагічнае абвінавачванне Міхаілу Чыгіру ў тым, што недагледзеў. Аднак пакуль ані сведкамі, ані дакументальна яно ў судзе не пацвярджаецца. Затое добра бачна заданасць папярэдняга расследавання, накіраванасць следчых на тое , каб зрабіць вінаватым менавіта Чыгіра. Прынамсі, зноў ніякіх прэтэнзіяў да тых, хто браў крэдыт у банку, следчыя не прад'явілі. Неверагодна, але спадар Пацееў нават як сведка да суда не дапытваўся.

## Аддай мільён!

Любы банкаўскі работнік пацвердзіць, што выдача крэдытаў – справа рызыковая, але і неабходная, без гэтага банк не быў бы банкам, не зарабляў бы грошы. Да 1994 года Белаграпрамбанк быў самым паспяховым банкам у Беларусі, і Чыгіра як ягонага кіраўніка ставілі ўсім у прыклад. Вось як добра працуе, толькі за 1993 год прыбытак банка большы за 20 мільёнаў долараў!

За год да таго, як Чыгіра прызначылі прэм'ерам, ён пачаў рэалізацыю праекта пабудовы новага офіса банка. Згодна з дамовай з канадскай будаўнічай фірмай «Лоўрэнс авеню групп лтд», у правінцыю Антарыю быў пералічаны першы мільён авансу – на набыццё ліфтоў, іншых прыстасаванняў. У Мінску побач з Юбілейнай плошчай ішла падрыхтоўка будаўнічай пляцоўкі. Але летам 1994 Міхаіла Чыгіра прызначаюць прэм'ерам, кіраўніком банка становіцца ягоны намеснік Аляксандр Застаўнюк, і праект пабудовы новага офіса раптам спыняецца. Застаўнюк палічыў, што ў банка на будоўлю не хопіць грошаў, а знайсці сродкі ў іншых крыніцах не ўдалося. Відаць, у ягоных словах ёсць ісціна, бо прыбыткі банка сапраўды рэзка скараціліся менавіта ў 1994 годзе, але Чыгір дагэтуль лічыць, што ад будоўлі адмовіліся дарэмна, што, калі б вывелі хоць некалькі паверхаў і прарэкламавалі офіс, назбіралі б шмат інвестыцыяў. Толькі што цяпер гадаць? Факт, што Застаўнюк у рэшце рэшт звярнуўся да канадцаў з просьбай вярнуць грошы , але тыя адказалі, што патрацілі ўсё на абсталяванне, і не прыслалі ані цэнта.

Што рабіў новы кіраўнік банка, каб усё ж такі забраць назад грошы, чаму гэта так і не ўдалося зрабіць – на гэтыя ды іншыя пытанні адказваў у судзе Аляксандр Застаўнюк. Следства да Застаўнюка не мае ніякіх прэтэнзіяў, аднак у адвакатаў на гэты конт здагадкі ёсць. «Мы не выключаем, што спадар Застаўнюк мог, але не захацеў судзіцца з-за мільёна з канадцамі таму, што меў у гэтым карыслівы інтарэс», – кажуць адвакаты і абяцаюць не абыходзіць увагай гэтую версію падчас слуханняў. ■

РАКУРС

# Слова без справы

Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ

**Вядомы амерыканскі гангстэр Аль Капонэ трапна заўважыў: «Добрым словам ды пісталетам можна дамагчыся большага, чым адным толькі добрым словам». Ягоны афарызм часцяком прыходзіць на розум, калі назіраеш за спробамі замежных палітыкаў палагодзіць справы з Аляксандрам Лукашэнкам.**

Упэўненасць прадстаўнікоў Захаду, што ў цяперашняй сітуацыі кампраміс паміж уладамі ды апазіцыяй мае адбыцца, не пахіснулася нават пасля фактычнага скасавання афіцыйным Мінскам перамоўнага працэсу. Пад час нядаўняга прыезду «еўрапейскай тройкі», ейныя прадстаўнікі ціснулі на кіраўнікоў дэмакратычных партыяў, каб тыя пагадзіліся на ўдзел у так званым шырокім грамадскім дыялогу, што абвесціў сваім загадам Аляксандр Лукашэнка. Дыпламаты заявілі, што каб мець уяўленне пра смак пудынгу, трэба яго пакаштаваць. Аднак яны чамусьці забыліся пра тое, што беларускія ўлады частуюць гэтай стравай сваіх апанентаў ажно з 1996 года і кулінарныя здольнасці гэтых кухараў добра вядомыя.

Дыялог, паводле рэцэпта Аляксандра Лукашэнкі, павінен адбывацца так. Бярэм адну частку апазіцыйных заяваў і шчодра паліваем яе соусам, прыгатаваным з памыяў лепшымі спецыялістамі Беларускага тэлебачання. Далей дадаем дзесяць частак афіцыйнай пазіцыі і ўпрыгожваем меркаваннем недзяржаўных арганізацыяў, што лаяльныя да цяперашняга кіраўніцтва краіны, накшталт Лігі правоў чалавека. Страва гатовая.

Спробы адысці хоць на крок ад распрацовак лукашэнкаўскай кухні лічацца за ўцёкі: канвой страляе без папярэджання. Напрыканцы мінулага тыдня ў тэлепраграме «Крок-2» з'явіўся вядомы рэжысёр Юры Хашчавацкі і распавёў, у прыватнасці, пра Усебеларускі з'езд, што рыхтуецца гэтым часам. На наступны дзень вядучы Яраслаў Беклямішаў быў звольнены, бо з'яўленне на экране апанентаў улады дазволенае толькі ў дробна нарэзаным выглядзе секундаў на сорак і з абавязковым каментарам штатных прапагандыстаў. Таму ілюзіі наконт таго, што тыя прадстаўнікі дэмакратычных колаў, якія пагодзяцца на ўдзел у «дыялогу», атрымаюць нармальны доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, павінны быць адкінутыя.

Відавочна, што добрым словам ад Лукашэнкі дамагчыся чагосьці рэальнага нельга, а пісталета ў кіраўніка кансультатыўна-назіральнай групы Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе Ханса-Георга Віка няма. Таму ягоныя магчымасці выканаць сваю місію ў Беларусі вельмі абмежаваныя. Паводле паведамленняў сродкаў масавай інфармацыі, спадар Вік вылучыў ідэю наладзіць яшчэ адзін грамадскі дыялог, але пад эгідай АБСЕ.

Падобна, што хутка на Беларусі «круглых сталоў» будзе больш, чым жадаючых за імі сядзець. Прапанова спадара Віка пра «альтэрнатыўны» дыялог можа мець розныя наступствы ў залежнасці ад формаў ейнай рэалізацыі. Хутчэй за ўсе, гэта будзе чарговая саступка беларускім уладам праз маўклівую згоду з іхнай адмовай ад сваіх ранейшых абавязацельстваў правесці перамовы з апазіцыяй наконт выбарчага заканадаўства, паўнамоцтваў будучага парламента ды доступу да сродкаў масавай інфармацыі.

Тым не менш ідэя Віка мае і станоўчыя моманты. Яна выбівае глебу з-пад заяваў, што апазіцыя адмаўляецца ад дыялогу. Так што, з тактычнага пункту гледжання, гэта будзе пісьменны крок, які дазваляе парыраваць выпад уладаў. Аднак стратэгічна гэты шлях нікуды не вядзе. Бакі сядзяць за рознымі сталамі, і кожны здольны атрымаць адзіную і непаўторную асалоду ад гуку ўласнага голасу. Больш за тое, гэтыя маналогі, хутчэй за ўсе, канчаткова пахаваюць перамовы ў тым фармаце, што быў вызначаны летась, пасля чаго застанецца толькі канстатаваць: «Гэтая казка добрая, пачынай спачатку». ■

ПАЗІЦЫЯ

# Беларусь блізкая да страты прывілеяў

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**ЗША маюць намер прыпыніць дзейнасць агульных гандлёвых прэферэнцыяў у адносінах да Беларусі, калі ў бліжэйшыя некалькі тыдняў у краіне не адбудзецца зменаў. Пра гэта заявіў 14 сакавіка на прэс-канферэнцыі спецыяльны дарадца Дзяржсакратара ЗША па сувязях з краінамі СНД Рос Уілсан.**

13 сакавіка ў Мінск прыляцеў памочнік пасла ЗША па асобых даручэннях і спецыяльны дарадца Дзяржсакратара ЗША па сувязях з краінамі СНД Рос Уілсан. У праграме візіту былі сустрэчы з прадстаўнікамі ўладаў, чые інтарэсы прадстаўляў Міхаіл Мясніковіч, і з прадстаўнікамі апазіцыі. Як паведаміў сп. Уілсан, ягоны візіт на Беларусь меў некалькі мэтаў. Дыпламат у чарговы раз заклікаў беларускія ўлады не перашкаджаць правядзенню масавых палітычных акцыяў, бо менавіта акцыі «Вясны-2000» павінны забяспечыць магчымасць і неабходны клімат перамоваў паміж уладай і апазіцыяй. Рос Уілсан падкрэсліў, што ЗША будуць настойваць на перамовах, а цесна супрацоўнічаць з Беларуссю будуць толькі пасля абрання новых парламента і прэзідэнта на дэмакратычных асновах.

14 сакавіка ў інфармацыйным цэнтры ЗША адбылася прэс-канферэнцыя амерыканскага госця, на якой ён і выказаў намер урада Злучаных Штатаў прыпыніць дзейнасць агульных гандлёвых прэферэнцыяў у выпадку незмянення абстаноўкі ў Беларусі. Гэтая сістэма была разлічаная на падтрымку палітычных і эканамічных рэформаў у Беларусі. На думку Уілсана, гэтых рэформаў проста няма. Прыпыненне гандлёвых прэферэнцыяў азначае для Беларусі пагаршэнне ўмоваў беларускага экспарту ў ЗША. На прэс-канферэнцыі журналісты задавалі сп. Уілсану пытанні, скарочаныя адказы на некаторыя з якіх тут прапануюцца.

***— Учора па дзяржаўным радыё перадалі, што падчас сустрэчы з Міхаілам Мясніковічам вы шмат у чым знайшлі кансэнсус. Ці так гэта?***

— Мы са сп. Мясніковічам доўга размаўлялі на тэму мераў і крокаў для паляпшэння сітуацыі ў Беларусі. Не заўсёды нашы развагі супадалі. Мы абмеркавалі Выбарчы кодэкс, і я выказаў думку, што цяперашні варыянт кодэкса не зусім адпавядае міжнародным нормам і стандартам... Спадар Мясніковіч выслухаў і, здаецца, зразумеў мяне. Але ў адносінах да стану справаў на Беларусі нашы пункты гледжання розныя.

***— Калі ўсё ж адбудзецца вяртанне Беларусі ў еўрапейскую супольнасць?***

— Не раней, чым будзе вырашаны канстытуцыйны крызіс. Крокам да гэтага мусяць стаць выбары ў парламент увосень 2000 года, якія павінны прайсці па Выбарчым кодэксе са змяненнямі і дапаўненнямі.

***— Ці абмяркоўвалі вы са сп. Мясніковічам пытанні дазволу акцыі 15 сакавіка і ўвогуле палітыкі ў адносінах да гэтай тэмы?***

— У нас была дасягнутая папярэдняя дамоўленасць аб тым, што акцыя «Марш Свабоды» пройдзе без эксцэсаў. Улады ўскосна прызналі сваю віну ў тых беспарадках, што адбыліся падчас акцыі мінулай восенню, і паабяцалі не ствараць больш такіх прэцэдэнтаў.

***— Што ЗША думае аб праблеме інкарпарацыі Беларусі ў Расію?***

— ЗША не пярэчыць інтэграцыі ў рамках СНД пры выкананні трох умоваў: а) інтэграцыя павінна весціся на ўзаемавыгадных асновах; б) не будзе ўзведзена новых межаў з іншымі краінамі; в) усё павінна адбывацца на добраахвотнай аснове.

Мы ж сумняваемся, што збліжэнне Беларусі і Расіі носіць добраахвотны характар з боку беларускага народа. Мы ўважліва сочым за развіццём гэтай інтэграцыі, і, шчыра кажучы, не ўсё нам у гэтым працэсе падабаецца. Заклапочанасць з гэтай нагоды мы будзем і далей выказваць і афіцыйнаму Мінску, і Маскве.

***— Зараз у парламенце выступае Лукашэнка, і з ягонага выступу можна зразумець, што не будзе змяненняў у Выбарчым кодэксе, не будуць вызваленыя вязні і гэтак далей. Што вы на гэта скажаце?***

— З Мінска я паеду ў Брусель, Лондан, Парыж, дзе сярод іншых пытанняў буду абмяркоўваць з нашымі саюзнікамі праблему санкцыяў у адносінах да Беларусі. Мы будзем настойваць і прыкладзем усе намаганні, каб на Беларусі сітуацыя змянялася ў лепшы бок, ішлі дэмакратычныя працэсы. Але калі крокі ў бок негатыву будуць працягвацца, магчымыя значна больш жорсткія меры. ■

АРМІЯ

# Служыць бы рады...

## У небе над Беларуссю рэдка ўбачыш палёт «стальной птушкі». Лётчыкі перастаюць адрозніваца ад пехацінцаў

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

**Авіяцыя, як рамантычны занятак, ніколі не мела недахопу ў кадрах. Беларускія лётчыкі праславіліся сваімі ваеннымі подзвігамі. Двое беларусаў, Пётр Клімук ды Уладзімір Кавалёнак, вядомыя на ўвесь свет касманаўты.**

Магчыма, прыклады гэтых авіятараў вызначылі і выбар Паўла Ганчарыка, які вучыўся на пілота ў Балашоўскай вышэйшай ваенна-авіяцыйнай вучэльні.

На сваю, як атрымалася, галаву. Бо тады, напрыканцы 80-х гадоў, ужо поўным ходам ішло скарачэнне ўзброеных сілаў. Не ведаючы, што рабіць з маладымі лейтэнантамі, іх, лікам у паўсотні, размеркавалі ў авіяцыйны полк у Луганск на Украіну. Лётнай працы ў іх не было, аніякай яснасці наконт прафесійных і службовых перспектываў таксама. Таму маладыя пілоты змушаныя былі самі сабе шукаць занятак. І вось хто з лейтэнантаў пайшоў у камерцыю, хто ў грамадзянскую авіяцыю, а мінчук Павел Ганчарык, зведаўшы, што ў адным з авіяцыйных палкоў пад Мінскам ёсць свабодныя вакансіі, у снежні 1991 года вярнуўся на Радзіму.

Ён падаспеў якраз пад Віскулі, з нагоды чаго стаў ваенным лётчыкам Узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь. Спачатку ўсё ішло добра. Праз нейкі час Паўла, як кажуць лётчыкі, пачалі «выводзіць на камандзіра карабля». У 1995 годзе ён ужо камандаваў экіпажам лайнера.

Але авіяцыя — рэч вельмі дарагая. Прыкладам, нават «Белавія», якая мае магчымасць зарабляць грошы пасажырскімі і грузаперавозкамі, у некалькі разоў скараціла і тое, і другое. А ваенная? Калі няма грошай на запчасткі і на паліва для ўборачных камбайнаў, тым болей іх не хапае на непараўнальна даражэйшыя запчасткі ды паліва для самалётаў. Таму баявыя машыны ўсё радзей выпадала падымаць у паветра. Прынамсі, калі ў былыя часы нормай быў налёт 70 гадзінаў у год, дык за апошнія чатыры гады экіпаж Ганчарыка меў толькі 20-30 гадзінаў налёту. Па дзве гадзіны на месяц. Гэта тая мяжа, за якой пілот губляе свае прафесійныя якасці. Па сутнасці, ён пераходзіць у наземную службу, пільнуе самалёты, бо заўжды ёсць аматары нешта там адкруціць, зламаць ці ўкрасці.

Маёр Ганчарык, якому ўсяго крыху за 30 гадоў, не хоча губляць сябе як прафесіянала, як асобу. Ён гатовы служыць Радзіме, але ў цяперашніх умовах Радзіме яго служба непатрэбная. Таму, як гэта і належыць, ён падаў рапарт па камандзе аб звальненні ў запас. Адказ быў адмоўны. Бо ўсе ведаюць, што армія, тым больш Ваенна-паветраныя сілы, гэта тая карта, якой беларускія ўлады казыраюць. Перш-наперш, перад Крамлём.

Таму на юрыдычны бок справы ніхто ўвагі не звяртае. Але, згодна з законам «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» для афіцэраў прадугледжаныя два віды службы: па прызыве і па кантракце. Прызывацца ў войска могуць афіцэры запасу, ва ўзросце да 27 гадоў, якія не праходзілі тэрміновую службу. Для іх устаноўлены тэрмін службы ў два гады. Кантрактнікі ж могуць быць звольненыя па ўзросце, па заканчэнні кантракта, па хваробе, па скарачэнні штатаў, па службовай неадпаведнасці, па дыскрэдытацыі, у сувязі з судовым прысудам. А таксама па сямейным стане і другіх абставінах, якія перашкодзяць выкананню службовых абавязкаў — па просьбе афіцэра.

Адмаўляючы Паўлу ў яго просьбе звольніцца па ўласным жаданні, начальства спасылаецца на тое, што такі пункт заканадаўствам не прадугледжаны. Яно так. Але ніякага кантракта маёр не падпісваў. Такім чынам, гэтыя нормы да яго дачынення не маюць.

Ведаючы гэта, Ганчарык звярнуўся ў Мінскі міжгарнізонны ваенны суд з іскавай заявай да міністэрства абароны, якое парушае яго грамадзянскія правы. У прыватнасці, права на свабодны выбар роду занятку і прафесіі. Суд задаволіў прэтэнзіі істца. А вось суд вышэйшай інстанцыі — Беларускі ваенны суд, наадварот, спагадзіўся з аргументамі мінабароны, якое звярнулася з касацыйнай скаргай на дзеянні міжгарнізоннага суда, і 29 лютага адправіў справу таму ж суду на новы разгляд у іншым складзе. У сваю чаргу, суддзя Мінскага міжгарнізоннага суда маёр юстыцыі П.Арлоў направіў прадстаўленне старшыні Вярхоўнага суда Валянціну Сукалу з просьбай запатрабаваць справу і вынесці пратэст на адмену касацыйнага вызначэння Беларускага ваеннага суда аб справе ад 29 лютага 2000 года па грамадзянскай справе Ганчарыка П.Е.

Такім чынам, судовая машына набрала абароты. І, як сцвярджае сам Ганчарык, калі меркаваць па той інфармацыі, якая распаўсюджваецца неафіцыйна, выйграць справу яму не ўдасца ні пры якім раскладзе. Маўляў, ёсць такая ўстаноўка, якая звальненне афіцэраў са службы катэгарычна забараняе. Нават калі тае службы і зусім няма.

Таму ўзнікае пытанне, хто і што будзе рабіць. Ганчарык, зразумела, прадоўжыць захады, каб, так бы мовіць, вырашыць справу цывілізаваным шляхам. Начальства, лічачы па ўсім, будзе гэтаму праціўіцца. А паколькі цывілізаваных сродкаў для гэтага ў яго бракуе, дык звернецца, хутчэй за ўсё, да такіх артыкулаў, як службовая неадпаведнасць ці дыскрэдытацыя гонару афіцэра. Прынамсі, так рабілася ў савецкія часы. Але ж тады ўсе вайскоўцы, хоць начальнікі, хоць падначаленыя, не маглі звольніцца ні пры якіх абставінах. Таму афіцэры свядома паглыбляліся ў п'янства, ігнаравалі службовымі абавязкамі. Каб даць начальству падставу звольніць «за дыскрэдытацыю». Да ўзаемнай асалоды.

Але ж маёр Ганчарык не п'е. Ён не хоча быць вартаўніком пры самалётах. Ён – лётчык...

І колькі такіх афіцэраў марнуюць сілы і час свайго жыцця ў нашым войску? ■

# Спецучилище

## Из социально обделенных детей вырастают социально опасные типы

**Наталья РАДИНА**

### Контингент

Могилевское спецучилище окружено высоким бетонным забором. Он отделяет от общества 140 несовершеннолетних преступников в возрасте от 14 до 18 лет. Большинство из них – воры. Немало ребят попали сюда за бродяжничество. Но есть и такие, кто убивал...

Воровством подростки занимались по нескольким причинам. Первая – нищета, которая коснулась детей из неблагополучных семей. Когда родители в пьяном угаре выгоняют своих детей из дому, морят голодом, избивают, они невольно бегут навстречу преступлениям. Например, Андрей в 10 лет сбежал от матери-алкоголички и четыре года жил, где придется. Воровал в основном еду. За это в 14 лет попал в спецучилище, его определили в 5 класс. 14-летний Дима был обречен бродяжничать и воровать чуть ли не с пеленок. Когда его пьющую мать посадили в тюрьму за убийство, Дима несколько раз убегал из интерната, куда его помещали как социального сироту. В конце концов, за многочисленные кражи он попал в Могилев.

Есть тут воришки из обеспеченных и благополучных семей. Кого винить в этих случаях – родителей или дурную компанию, — непонятно.

Когда я увидела малолетних убийц, то вначале удивилась их невозмутимости. Вид у них обыкновенный, физиономии довольно добродушные. Один из них, грабя магазин, убил сторожа. Другой приковал к батарее девушку, изнасиловал ее, а затем убил. Можно в целях самоуспокоения объяснять их равнодушие к прошлому непониманием ценности человеческой жизни и смертного греха убийства. Но едва ли это суть правды.

### Жизнь внешняя

Внутри бетонной ограды дни воспитанников похожи один на другой, как их стрижка под «ноль» и униформа (темно-серые «робы», кирзовые ботинки, фуфайки и шапки-ушанки). В общежитии подростки живут в тесноте. В одной комнате средних размеров могут располагаться от 15 до 22 человек. Недавно в «общаге» сделали ремонт, а до этого, по словам ребят, в комнаты было «страшно войти». Спят воспитанники на двухъярусных кроватях, причем спать на втором «этаже» считается привилегией. Потому что, как утверждают подростки, в общежитии развелось много крыс, которые зимой отыскивают тепло и пищу. Те, кто спит внизу, рассказывают, что уже привыкли посреди ночи смахивать крыс с одеяла. Продукты, присланные родителями, приходится оставлять в сейфе, покинуть их в ячейке раздевалки, значит, отдать на съедение крысам. Даже если не вытряхнуть крошки хлеба из кармана, то наутро они будут в дырах. В подтверждение воспитанники продемонстрировали мне изъеденные крысами подкладки своих пиджаков.

В баню воспитанники ходят по субботам. Там им выдают смену нижнего белья. Форменные брюки и пиджаки прачечная не стирает, здесь действует принцип: «хочешь – постирай сам». Те, кому стирать не хочется, радуются, что одежда темного цвета.

В школе при училище воспитанники получают неполное среднее образование. Дети, конечно, приходят в училище очень необразованные, некоторые в 15 лет читают по слогам. Редко кто в своем возрасте идет в соответствующий класс.



Фота IREX/ProMedia

Работать с этими детьми педагогам сложно, даже если не говорить о вялом желании учиться. Грубые, неотесанные, они могут отвечать учителю матом, не соображая, что этим оскорбляют человека. Культурный уровень воспитанников, приходящих в училище, настолько низок, а сила привычки общаться на своем «базаре» настолько велика, что подборка цензурных слов требует от них больших усилий.

Зданию, где проходит производственное обучение, уже 30 лет, за этот срок оно так и не узнало, что такое капитальный ремонт. Однако несколько раз был «косметический». Двери, столы, парты, шкафы сделаны руками воспитанников. Здесь они обучаются профессиям столяра-мебельщика и станочника по деревообработке. Теперь из-за отсутствия финансирования и сужения рынка сбыта ребята практически мебель не делают. А раньше школы и общежития с удовольствием покупали довольно качественную и дешевую продукцию спецучилища. Но сейчас заказов на изготовление мебели для системы образования не поступает, а работать на склад училище себе позволить не может. Теперь оно само ищет заказчиков на изготовление хотя бы поштучной мебели. Чтобы не быть без дела, воспитанники изготавливают инструмент, сувениры, кухонную утварь.

Срок пребывания в спецучилище 1—3 года. За примерное поведение после года обучения профессии столяра-мебельщика и полуторагодового профессии станочника можно выйти на свободу. За систематическое нарушение дисциплины можно пробыть в спецучилище полные 3 года. «Штрафникам» приходится осваивать два ремесла.

В свободное время воспитанники могут посещать кружки по интересам и спортивные секции. Как мне объяснили, в «познавательных целях и в целях патриотического воспитания» для подростков обязателен ежедневный просмотр «Панарамы» на БТ. По выходным в актовом зале показывают патриотические или романтические фильмы: в последний раз это были «Неуловимые мстители».

### Жизнь изнутри

Как бы сотрудники спецучилища ни рассказывали о жизни своих воспитанников, на деле их подопечные живут в своем мире, куда не пускают ни воспитателей, ни педагогов, ни психологов. Последних на 140 колючих и озлобленных подростков приходится трое. Все психологи в училище женщины. Но многие из воспитанников росли без отца, им необходим понимающий их мужчина, с которым они смогли бы поговорить «как мужик с мужиком».

Узнав от самих ребят уклад их жизни, мне показалось, что они играют в тюрьму, представляя себя настоящими «зэками». И потому живут они по воровским законам. Отсюда строгая иерархия их общества. Господствующее положение среди них занимают «босяки», ребята, которые пользуются общим уважением и преклонением. «Босяк» скорее умрет, чем будет работать, поэтому заставить его работать «на зоне» практически невозможно. В конце концов, мастера устают их наказывать и предпочитают не трогать. Для поддержания авторитета «босяк» должен твердо знать, что «человек человеку волк», и быть безжалостным. Любое сострадание лишь унижает его в глазах окружающих. Разумеется, авторитет должен подтверждаться не только стальными нервами, но и кулаками. Если «босяки» не хотят работать, то это отнюдь не значит, что они не хотят учиться. Наоборот, они утверждают, что «образование необходимо» и что «неучами и дурачками» быть не хотят.

Среднее звено занимают «правильные», те, кто решил «стать человеком», но при этом силой своих кулаков показал, что в обиду себя не даст. Но авторитет их не так велик, как у «босяков». «Правильных» ребят стараются не трогать.

Низшие слои этого общества занимают «парафины», «черти», «петухи». «Парафины» и «черти» — это «малолетки» по 14 лет, самые младшие в училище. Они неприспособленные к жизни, постоянно на «побегушках» у начальства и у своих, слабые физически и характером. Отношение к ним брезгливое. «Босяк» считает ниже своего достоинства даже заговорить с ним. «Крыс» и «стукачей» нещадно избивают. Что такое «стукач» — понятно. А «крысы» — это те, кто ворует у своих товарищей.

В быту все стараются делиться на «общаки». «Общак» что-то вроде семьи из 5-6 человек, у которой общий стол, то есть все передачи из дому строго делятся между членами «общака».

### Планы на будущее

Вопрос к «босяку» 17 лет:

***— Ты будешь воровать, когда выйдешь?***

— Слушай, здесь даже если пацан сидит за мелочевку — хулиганство или мелкое воровство, он обязательно научится красть мастерски. Он просто послушает, как кто-то украл, вспомнит, как сам это делал, и сделает выводы, как это сделать лучше. Если ты будешь говорить здесь: «Не надо красть!», то с тобой никто и не заговорит. И вообще, если ты не такой, как все, то становишься полным изгоем.

***— Как же ты собираешься жить после училища?***

— Ну, работать за бутылку столяром второго разряда не стану. Без криминала точно не обойдется. ■

# Паўгода таямніцы

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Спаўнілася паўгода, як пры невядомых абставінах зніклі першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета 13-га склікання Віктар Ганчар і бізнесовец Анатоль Красоўскі.**

Нагадаем, што ўвечары 16 верасня 1999 года В.Ганчар разам з сваім знаёмцам А.Красоўскім пайшлі ў грамадскую лазню, а пасля выхаду з яе а 23 гадзіне таямніча зніклі. На месцы знікнення былі знойдзеныя аскепкі шкла, плямы крыві, дрэва, пашкоджанае аўтамабілем, і сляды шынаў.

Па факце знікнення В.Ганчара і А.Красоўскага, была ўзбуджаная крымінальная справа. Пра тое, якіх поспехаў дасягнула следства, мы вырашылі даведацца ў жонкі Віктара Ганчара, **Зінаіды Ганчар**:

— У мяне склалася ўражанне, што следства не вядзецца. Следчы вельмі залежыць «ад вярхоў». Я ўпэўненая: улады ведаюць тое, што насамрэч адбылося ў той вечар.

Бяздзейнічае і маўчыць адмысловая камісія, якую ўтварыў ВС 13-га склікання для высвятлення абставінаў знікнення В.Ганчара.

***— А хто менавіта займаецца расследаваннем гэтай справы?***

— Следства вядзе следчы па асабліва важных справах пракуратуры Мінска Сяргей Новікаў. Я яму тэлефаную час ад часу, але пакуль яшчэ не пачула ад яго нічога канкрэтнага.

***— А як вы лічыце: калі б вы самі не тэлефанавалі, нагадвалі пра сябе, следчы б вам паведамляў нешта?***

— Наўрад ці. Можа, яны і забыліся пра мяне, але я не даю. Я ўжо звярталася ў КДБ, прасіла аб асабістай сустрэчы з старшынёй камітэта Мацкевічам – аднак сустрэча так і не адбылася, адказу на сваю прапанову я не атрымала.

***— Вы сказалі, што Вярхоўны Савет нічога не робіць, каб знайсці вашага мужа. Чаму вы так лічыце?***

— Ведаеце, як улада імітуе цяпер пошукі Віктара, так апазіцыя імітуе барацьбу з уладай. На карысць палітычнага дыялогу згодніцкая частка апазіцыі і кансультатыўна-назіральная група АБСЕ гатовыя ахвяраваць правы чалавека, каштоўнасці дэмакратыі, жыццё майго мужа, жыццё Юрыя Захаранкі, які знік раней, лёсы палітзняволеных, што ўтрымліваюцца ў лукашэнкаўскіх турмах. Цяпер пытанне пра правы чалавека нават і не ўздымаецца.

***— Праз пэўны час пасля знікнення Тамары Віннікавай яе адвакат Гары Паганяйла ініцыяваў судовы працэс з мэтай прызнання яе памерлай. Ці не збіраецеся вы ініцыяваць аналагічны працэс, каб гэта, магчыма, неяк падштурхнула ўлады на сапраўдныя пошукі?***

— Я нават думаць пра гэта баюся. Я толькі спадзяюся на лепшае.

20 сакавіка спаўняецца 6 месяцаў пасля таго, як была ўзбуджаная крымінальная справа. Пасля гэтага пракуратура мае права або працягнуць следства, або азнаёміць мяне з усімі матэрыяламі справы. Я спадзяюся, што змагу азнаёміцца з справай, і, можа быць, там ёсць нейкая інфармацыя, якая зможа праліць святло на тое, што адбывалася.

Месяц таму маці Віктара Ганчара, **Валянціна Ганчар**, напісала адкрыты ліст з нагоды знікнення сына. «Што я перажыла за гэты час, колькі слёз праліла, ведаюць толькі тыя бязлюдныя дарожкі, па якіх я хаджу, толькі скамечаная ад бяссонніцы і мокрая ад слёз падушка, толькі Гасподзь Бог, да якога я звяртаюся кожную секунду з гарачай мальбой... Сынок мой знік! Для мяне ён не відны палітычны дзеяч, не апазіцыянер, а сыночак, мілы, добразычлівы, сентыментальны, што любіў мяне. Вырас, працаваў з ранку да ночы, нікому нічога кепскага не зрабіў. І вось узнагарода...».

Тры жанчыны – маці, жонка і сакратарка Віктара Ганчара – шукаюць свайго сына, мужа, начальніка. Яны ў гэтым зацікаўленыя. Хто яшчэ зацікаўлены ў гэтым? ■


Фота Ул.ШЛАПАКА

КРЫМІНАЛ

# Людзі ў клетцы

## На кантрабандзе няблага заробіш, але доўга сядзець

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

**У Гродзенскім раённым судзе распачалося слуханне справы аб дзвюх няўдала арганізаваных спробах пераводу праз беларуска-польскую мяжу афра-азіяцкіх уцекачоў. Частка арганізатараў і выканаўцы — усяго дзесяць асобаў апынуліся ў судовай клетцы. Клетка, дарэчы, вельмі вялікая, можна было б і чалавек трыццаць-сорак пасадзіць пры жаданні. Якраз памежнікі вылавілі 41 афра-азіята, але ім усім даравалі, адаслаўшы назад у Расію.**

Гэткі, па сутнасці, гуманны акт сведчыць пра тое, што «сацыялістычная законнасць» захавалася ў нашай савецкай краіне ў няпоўным аб'ёме. Кантрабандысты «жывога тавару» ў клетцы — таксама, як ні дзіўна, сведчанне пэўнай дэмакратызацыі нашай судовай сістэмы. Як сказаў мне адзін юрыст, які назірае за працэсам, пры Саветах групу «парушальнікаў мяжы» папросту перастралялі б на месцы, і ніхто б пра гэта не даведаўся. Адно нехта атрымаў бы пагоны генеральскія ды ордэны ад таварыша Андропава або ад Кручкова.

Але адзін «афра-азіят» у клетцы ўсё ж апынуўся. Высокі індус вылучаецца з усіх сваёй экзатычнасцю. Праўда, апошнія гады ён жыве ў Мінску. Аднак грамадзянства захаваў індыйскае. Лічыцца адным з арганізатараў нелегальных рэйдаў праз мяжу. Да ліку арганізатараў, падобна, далучаюць таксама беларуса без грамадзянства, які жыў у Літве. За падобны ж «памежна-крымінальны» бізнес літоўцы хацелі прыцягнуць яго да адказнасці, але ён уцёк і шукаўся праз Інтэрпол. У клетцы сядзяць таксама два гродзенцы і адзін мінчук. Побач з імі два грамадзяніны Літвы — літовец і азербайджанец, які апошнім часам жыў у Мінску. Апошнія тры абвінавачаныя — грамадзяне Польшчы. Яны, дарэчы, цалкам прызналі сваю віну. Тым часам, як палова з падследных заявіла ў судзе аб сваёй невінаватасці, у тым ліку і індус.

Фабула здарэнняў наступная. Летась шостага жніўня, у гадзіну дваццаць ночы ў Гродзенскім раёне непадалёк ад вёскі Саннікі памежніцкім нарадам быў затрыманы грузавік. За рулём быў беларускі грамадзянін, побач — польскі. У кузаве былі схаваныя 7 афганцаў і 8 в'етнамцаў. Да мяжы было 2,5 кіламетра. Амаль праз два месяцы былі затрыманыя таксама літовец і гродзенскі беларус, якія, на думку следства, удзельнічалі ў падрыхтоўцы нелегальнай акцыі.

Пятага лістапада, таксама ўначы, на тэрыторыі, якая ахоўваецца суседняй памежнай заставай, былі затрыманыя два палякі-праваднікі і 26 нелегалаў. Апошніх праз 10 дзён дэпартавалі, а палякаў пасадзілі за краты. Два з іх згадзіліся, дарэчы, быць праваднікамі за 1.000 і 1.500 злотых адпаведна. Той жа ноччу каля Гродна быў затрыманы беларус, якога шукаў Інтэрпол. На судзе ён пачаў горача даказваць сваю невінаватасць. Маўляў, на рынку ў Магілёве, адкуль ён родам, пазнаёміўся з гродзенскай дзяўчынай, якая запрасіла паехаць да яе. Гаварыў ён, дзеля пераканаўчасці, скарагаворкай, не спыняючыся. Той жа юрыст сказаў мне, што гэта — класічныя прыкметы, якія паказваюць на тое, што той брэша.

Пасля гэтага былі затрыманыя таксама грамадзянін РБ і літоўскі азербайджанец. Самым апошнім трапіўся следчым індус, яго «узялі» на каталіцкія Каляды. Следству, аднак, не ўдалося высветліць асобы аднаго з удзельнікаў падрыхтоўкі нелегальнай акцыі, якога зваць Сяргеем, а таксама, напэўна, галоўнага арганізатара — Стаса. Ён мог быць літоўцам, бо адзін з падследных паказаў на судзе, што той разумеў па-літоўску.

А тым часам адзін з палякаў паведаміў, што ў бары ў г.Сувалкі пазнаёміўся з мужчынам, які назваўся Сташкам і даў тэлефон у Гродне, прапанаваўшы паўдзельнічаць у небяспечным бізнесе. У Гродне яны потым і сустракаліся. Следства падазрае, што гэты чалавек — грамадзянін Польшчы, які рыхтаваў пераход мяжы, знаходзячыся ў Гродне. Але высветліць яго асобу не ўдалося. Маўляў, праз маруднасць польскіх калегаў.

Папярэдне мяркуецца, што 24 сакавіка ўжо будуць зачытаныя прысуды ўдзельнікам «кіруемай устойлівай злачыннай групы», як іх назвалі следчыя. Канечне, працэс даволі незвычайны, асабліва — што да колькасці падсудных. Аднак журналістаў расчаравала наступнае. Напярэдадні, на прэс-канферэнцыі, на якой было паведамлена пра гэты суд, гаварылася і пра схопленага ў Маскве арганізатара пераправкі праз мяжу «жывой кантрабанды», і пра боса, які сядзіць на Кіпры і адтуль кіруе па рознакаляровых мабільных тэлефонах «памежнымі» акцыямі. На судзе мы ўбачылі звычайных радавых выканаўцаў, якія дзеля кавалка хлеба спакусіліся на небяспечную работу. ■


Фота IREX/ProMedia

ТЭНДЭНЦЫІ

# Наказания без вины

Валерий ЩУКИН,
правозащитник, БХК

**Выступая перед представителями СМИ по итогам деятельности белорусских судов в 1999 году председатель Верховного суда В. Сукало пригласил журналистов на всебелорусское совещание судей. Правозащиник, журналист Валерий Щукин, пользуясь случаем, попросил предоставить возможность обратиться на форуме непосредственно к судьям по вопросу соблюдения прав подсудимых. Но председатель Верховного суда даже не допустил его на это мероприятие. НАША СВАБОДА предлагает читателям некоторые тезисы несостоявшегося выступления правозащитника.**

Речь пойдет об обвиняемых в правонарушениях при проведении собраний, митингов, демонстраций, пикетов.

Статья 255 КоАП перечисляет пять вопросов, которые судья должен выяснить до начала процесса. Однако выполняется из них в лучшем случае пункт первый — установить, относится ли дело к компетенции данного судьи.

Пункт второй (проверить, правильно ли составлен протокол и другие материалы дела), пункт третий (извещены ли лица, участвующие в рассмотрении дела, о времени и месте его рассмотрения), пункт четвертый (истребованы ли необходимые дополнительные материалы), пункт пятый (о ходатайствах лица, привлекаемого к административной ответственности, и его защитника) фактически не выполняются.

Мой личный опыт (21 судебное разбирательство) и десятки административных процессов участников политических акций, на которых мне довелось присутствовать, свидетельствуют, что, как правило, судьи к административному процессу не готовятся. Милиция доставляет задержанного участника политической акции в райотдел, составляет на него протокол о правонарушении и под конвоем этапирует уже «обвиняемого» в суд. Милиционеры вводят нарушителя в кабинет судьи и кладут на стол протокол. Судья открывает протокол и... начинает судебный процесс. А за дверью переминаются с ноги на ногу еще два милиционера, назначенные свидетелями.

Но Кодекс об административных правонарушениях предполагает совершенно иное. После составления протокола обвиняемого в административном правонарушении отпускают, а материалы дела везут или направляют по почте в суд (статья 236 КоАП). И нормативные сроки рассмотрения дел (статья 257 КоАП) установлены с момента получения дела судьей, а не с момента совершения правонарушения.

Как правозащитник считаю, что судья не должен начинать рассмотрение дела, которое поступило к нему одновременно с обвиняемым. Во-первых, нарушается основополагающий принцип правосудия — равенство сторон (статья 115 Конституции): обвинение готово к процессу, а подсудимый — нет.

Во-вторых, налицо самоуправство милиции: принудительный привод в суд без постановления на то судьи (нарушение статьи 247 КоАП, а следовательно, и статьи 25 Конституции).

По отношению ко мне лично милиция подобные нарушения уже не допускает. Ей надоело таскать меня на руках — ведь для этого необходимо четыре милиционера, а не два. И я требую участия в деле адвоката. Так что судья все равно вынужден меня отпускать.

На такие способы борьбы за свои права может решиться далеко не каждый. Но эта борьба вообще потребуется, если судья будет руководствоваться процессуальными нормами — расписываться за доставленное дело и отправлять милиционеров восвояси.

В административном кодексе не предусмотрено обязательное участие обвинителя при судебном разбирательстве дела. Но и не запрещено! Никто не мешает судье вызвать на процесс «автора» протокола и допросить его. Иначе судья из арбитра превращается в обвинителя.

Милиция представляет судье протокол, в котором написано, что «обвиняемый» нарушил статью 1671 КоАП. Но указанная статья лишь предусматривает ответственность за «нарушение установленного порядка», а само понятие «порядок» не определяет. Порядок этот регламентируется совершенно иным документом, о котором составитель протокола «стыдливо» умалчивает. И уже не милиция, а судья начинает доказывать факт совершения правонарушения. Зачем же вы, судьи, берете на себя функцию обвинения вместо того, чтобы возвратить протокол начальнику райотдела?

Административное право в целом и нормативный акт, регламентирующий порядок проведения политических акций, в частности, не устанавливают ответственности за участие в собрании, митинге, демонстрации, шествии, пикете. Ответственность предусмотрена законом лишь для организаторов политических акций и лиц, нарушивших в ходе их проведения общественный порядок.

А вы, судьи, без ссылки на регламентирующий документ судите и выносите административные наказания в размере годовой (!) и более заработной платы обвиняемого именно за участие! Лишь за то, что от пункта «А» до пункта «Б» гражданин, вместе с другими, соблюдая правила уличного движения, шел по тротуару. Но гражданин не виновен, даже если что-то и выкрикивал — нет в законодательстве РБ нормативного акта, запрещающего в дневное время кричать на улице!

Превращение судьи из арбитра в обвинителя проявляется и в нарушении принципа презумпции невиновности. Вот каждодневная судебная ситуация: свидетели в милицейской форме заявляют, что обвиняемый шел по проезжей части и выкрикивал лозунги. Обвиняемый и «гражданские» свидетели это отрицают. Казалось бы, все ясно. Если составитель протокола не представит видеоподтверждения своих обвинений, то, в соответствии с принципом презумпции невиновности, обвиняемый должен быть оправдан.

Такое бывает, но — как исключение. Обычно судья объявляет, что правду говорят лишь милиционеры, и накладывает на доставленного ими обвиняемого наказание.

Какое же это правосудие: вина не доказана, наказание объявлено! ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Фёдараў – «Прэсбол», пакуль што 1:0

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Згодна з рашэннем суддзі Цэнтральнага раёна Ф.Кіркоўскага, становішча ў беларускім футболе – добрае, а спартыўная незалежная газета «Прэсбол. Такое спартыўнае жыццё» павінна выплаціць старшыні БФФ і кіраўніку Дзяржкамавіяцыі Рыгору Фёдараву 1 мільён дэнамінаваных рублёў за «нанесеную маральную шкоду». Акрамя таго, 200 тысяч новых рублёў мусіць заплаціць галоўны рэдактар газеты Уладзімір Беражкоў.**

У аўторак завяршылася судовае разбіральніцтва паміж Рыгорам Фёдаравым і газетай «Прэсбол». Большасць з абвінавачванняў, на думку суддзі, былі прад'яўленыя справядліва. У тым ліку па рашэнні суда не адпавядаюць рэальнасці надрукаваныя ў «ПБ» весткі аб хабарніцтве ў асяродку беларускіх футбольных суддзяў і аб агульным дрэнным становішчы ў беларускім футболе. Акрамя выплаты грашовай кампенсацыі, газета павінна надрукаваць на сваіх старонках абвяржэнні на ўсе матэрыялы, «засуджаныя» ў аўторак.

Ніводны з бакоў у выніку не застаўся задаволены вынікамі працэсу. Прадстаўнік Фёдарава, які, нагадаем, заяўляў іск у 65 «новых» мільёнаў, сказаў нешта кшталту «малавата будзе», але ці будзе абскарджвацца рашэнне ў вышэйстаячай інстанцыі – не ўдакладніў. Затое вельмі канкрэтна аб выніках суда выказаўся галоўны рэдактар «Прэсбола» Уладзімір Беражкоў: «Хаця газета і вытрымае такі фінансавы ўдар, апеляцыя, безумоўна, будзе пададзеная. Мы б закрылі вочы на некаторыя іншыя рашэнні суддзі, але калі той прызнае не адпавядаючым рэчаіснасці тое, што беларускі футбол у найглыбейшым крызісе, ці, як было напісана ў газеце «дайшоў да болі ў жываце і наступнай рэакцыі ў штанах», то, прабачце мяне, аб якой аб'ектыўнасці можа ісці гаворка?!»

Вельмі здзівіла прысутных тое, што Кіркоўскі не вынес прыватнага вызначэння па факце парушэння Фёдаравым дэкрэта №16 А.Лукашэнкі, факт парушэння якога сам Фёдараў у судзе прызнаў. На думку таго ж Беражкова, магчыма, прычынай невынясення гэтага вызначэння з'яўляецца тое, што «рука руку мые, а інакш кажучы, верагодная карупцыя ў вышэйшых органах улады, дзякуючы якой міністры і інш. не даюць у крыўду адзін аднаго».

Галоўны рэдактар паабяцаў чытачам, што бліжэйшыя нумары газеты выйдуць своечасова, і ўсклаў вялікія спадзяванні на іск у адказ рэдакцыі да Фёдарава і друкаванага органа БФФ «Усё аб футболе», у якім журналісты просяць той жа суд загадаць цяперашнім пераможцам выплаціць «Прэсболу» 100 мільёнаў кампенсацыі за абразу, якая, на іх думку, была надрукаваная ў «прафёдараўскай» газеце.

Прысуд вынесены, але, відаць па ўсім, гэта толькі пачатак «разборак» у футбольным свеце. Працяг 24 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёна. ■


Фота Ул.ШЛАПАКА

# Гексоген. ФСБ. Рязань

## В деле о взрывах жилых домов в России появляются новые доказательства причастности спецслужб к трагическим событиям

**Еженедельник «Новая газета» продолжает расследование событий в Рязани осени прошлого года. Мы задавались вопросом: почему в имитационном заряде, заложенном якобы в рамках учений по проверке боеготовности местных спецслужб, был обнаружен боевой взрыватель? И – самое главное. Результаты нашего расследования показали: в мешках все-таки был не сахар, а гексоген.**

Настало время задавать очередные вопросы.

Как нам стало известно, в сентябре 1999 года на военном складе 137-го Рязанского полка ВДВ, расположенном в 30 километрах от города на территории специализированной базы для подготовки разведывательно-диверсионных отрядов, хранился гексоген, расфасованный в 50-килограммовые мешки из-под сахара. И было там не три мешка, подобных найденным потом на улице Новоселов, а много больше.

Зачем?

Осенью 1999 года рядовой воздушно-десантных войск Алексей П. и его сослуживцы были командированы из Подмосковья в Рязань. Место назначения – 137-й Рязанский полк ВДВ. Сам город солдаты практически не видели – занимались боевой учебой на базе для подготовки разведывательно-диверсионных отрядов. Помимо стрельб и прыжков с парашютом Алексей выполнял обычные для рядового обязанности: ходил в наряд, стоял в карауле.

Пост Алексею доверили ответственный: «Будешь охранять склад с оружием и боеприпасами», – инструктировали на разводе. Но охранять оружие, так ни разу его и не увидев, было для десантников делом немыслимым. Открыв небольшую железную дверь, Алексей с приятелем проникли в помещение. Но вместо ожидаемого оружия увидели интерьер, напоминающий закоулок продовольственного склада. На полу лежало несколько штабелей обычных пятидесятикилограммовых дерюжных мешков, украшенных фабричным ярлычком с надписью «Сахар».

Разочарование было горьким. Но и уходить с пустыми руками не хотелось, поэтому десантники штык-ножом проделали дырку в одном из мешков и отсыпали в пластиковый пакет казенного сахара.

Чай с халявным сахаром оказался неожиданно противным и совершенно несладким. А вдруг селитра какая-нибудь? Перепуганные бойцы отнесли злополучный кулек командиру взвода. Тот, вспомнив занятия по подрывному делу и заподозрив неладное, решил проверить добытые подчиненным «сладости» у специалиста-подрывника. Вердикт сапера был категоричным: представленное на проверку вещество является **гексогеном**.

Начальство на сообщение о солдатской находке отреагировало оперативно. В часть нагрянула бригада чинов ФСБ. Делом о краже кулька гексогена занимались приезжие чекисты из Москвы и Тулы (?). По словам десантников, полковых особистов к расследованию не допустили.

Виновников ЧП освободили от повседневных обязанностей и начали тягать на регулярные допросы. Ругали не за то, что вскрыли склад, а за «раскрытие государственной тайны»: «Вы даже не догадываетесь, ребята, в какое серьезное дело влезли...»

Однако худшие опасения не оправдались. После длительных засекреченных разбирательств дело было замято. Прибывшие из столицы сотрудники ФСБ настоятельно посоветовали виновникам происшествия забыть о складе «спецсахара». А чтобы совет запомнился, весь караул вместе с командиром отправили восстанавливать российскую законность в ходе антитеррористической операции в Чечне.

Рассказ десантника многое объясняет, но вызывает и множество дополнительных вопросов, выходящих за рамки рязанских событий. Первый вопрос мы уже задали: зачем? Зачем на базе по подготовке разведывательно-диверсионных отрядов хранился гексоген, расфасованный в мешки из-под сахара?

По словам специалистов-саперов, взрывчатку так и в таких количествах не упаковывают ни для перевозки, ни для хранения – слишком опасно. Ведь чтобы разнести небольшое строение, вполне достаточно полкило... Дерюжные мешки тоже не имеют никакого отношения к технике безопасности при хранении взрывчатых веществ.

Зато для террористических актов подобная расфасовка идеальна. Количество взрывчатки вполне соответствует цели, а стандартные мешки не вызовут подозрений у случайных свидетелей перевозки, разгрузки и закладки. (Напомним, что в цокольном этаже дома в Рязани, где было найдено три очень похожих мешка, располагался продовольственный магазин. Кто заподозрит диверсантов в обычных грузчиках, разгружающих мешки с сахаром?)



Действительно, очень трудно поверить в такое невероятное совпадение: в подвале рязанского жилого дома обнаружены мешки из-под сахара, начиненные гексогеном, и в это же время подобные же мешки лежат на складе базы по подготовке разведывательно-диверсионных отрядов в 30 километрах от Рязани. А что если найденный «имитационный заряд» до учений хранился именно там?..

Чтобы предположить обратное, должны быть получены веские основания и четкие объяснения, которых мы, собственно говоря, и ждем от наших спецслужб.

Но дело не только в этом совпадении. Интересно и другое: а зачем такое количество мешков из-под сахара, набитых гексогеном, хранилось на военной базе?

Ведь лежали эти мешки, судя по всему, на складе еще до приезда на учения подмосковных десантников. Больная фантазия тут же рисует версию: выбор места «очередных учений» именно в Рязани объясняется просто. После московских взрывов перевозить что-либо подобное не удается — бдительность автоинспекторов достигла небывалых прежде высот. Проверяются все грузовики, и утаить несколько мешков с гексогеном практически невозможно. Гораздо удобнее устроить провокацию прямо близ места хранения взрывчатки.

Еще меньше теперь приходится сомневаться и в содержимом «мешков с сахаром», найденных в рязанском подвале. Судя по всему, приборы рязанских саперов действительно не врали: «имитационный заряд» был изготовлен из самого настоящего гексогена с добавлением сахара в качестве флегматизатора, как это и положено. Потому-то и не оглашены результаты экспертизы.

Из-за этого Центр общественных связей ФСБ не комментирует судьбу возбужденного в Рязани по факту обнаружения взрывчатки уголовного дела.

Спрашивать чекистов, куда делись мешки с гексогеном после проведенных «учений», бесполезно. Все равно не скажут. Эти мешки могут быть просто выброшены на свалку, как был кем-то выброшен обнаруженный в лесу под Тамбовом гексоген, расфасованный в мешки, как и содержимое склада на рязанской разведывательно-диверсионной базе.

Официальные же лица ФСБ, чтобы доказать свою версию происшедшего, оперируют только заверениями, не предав гласности ни одного факта, не ответив ни на один из вопросов и аргументированно не опровергнув ни одной версии.

Почему?

**Павел ВОЛОШИН**

**P.S.** *Недавно в СМИ промелькнула информация, что враждебные России силы готовят новую серию террористических актов в российских городах. Не значит ли это, что именно сейчас где-нибудь в российской глубинке ни о чем не подозревающий солдат охраняет очередной склад с «имитационными» мешками сахара-рафинада?*

**(«Новая газета», 13–19 марта. Печатается с сокращениями)**

ЗДАРЭННІ

# Варшавская саванна

Людмила ГУЛЯКЕВИЧ

В Варшаве нет постоянного цирка, здесь гастролируют цирки-шапито. Один из них, цирк «Корона» расставил недавно свои шатры и клетки со зверями на окраине Варшавы. Рано утром в цирке обнаружили, что трое бенгальских тигров убежали из клетки, причем все указывает на то, что кто-то «помог» им «выйти на свободу». Была вызвана полиция, которая однако явно не была готова к организации столь нетипичной операции. Не был окружен район, по которому бегали тигры. Пока звери были еще спокойны, полицейские не спешили применить оружие. На отснятых кадрах видно, как тигр спокойно переходит дорогу прямо перед полицейским автомобилем, а полиция открывает окошко в машине и провожает хищника... объективом камеры. В конце концов работникам цирка удалось поймать двух тигров, но один скрылся в кустах на пустыре. Кроме полиции были вызваны ветеринары, вооруженные ружьями с усыпляющим средством. К облаве присоединились прохожие. Работники цирка с вилами и цепями стучали в щиты. Раздавались выстрелы. Тигр, как и следовало ожидать, начал нервничать. И когда один из ветеринаров (которого никто не страховал) слишком приблизился к тигру, стреляя в него (снотворное начинает действовать только через 7 минут), зверь бросился на человека. Выстрелы спугнули тигра. Далее только замедленный показ смог прояснить, как погиб человек. Упавший ветеринар стал подниматься, его голова оказалась на линии выстрела одного из полицейских, который преследовал скрывшегося в кустах зверя.

Остается ответить на вопрос: кто открыл замки и выпустил опасных зверей на свободу? ■

# Канверт з выявай Францішка Багушэвіча

Па прапанове Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь 13 сакавіка 2000 г. выпусціла канверт накладам 200 тысяч асобнікаў з выявай Францішка Багушэвіча да 160-ых угодкаў нараджэння. Раім прыхільнікам роднай мовы карыстацца гэтым канвертам у ліставанні. Дзяржаўныя і прыватныя ўстановы могуць набыць новы канверт у Мінску на Галоўпаштамце па безнаяўным разліку. ■

# «Адважнае сэрца» па-беларуску

Вольга АНЦЫПОВІЧ

Беларускі відэаклуб пры ТБМ, які ўжо зрабіў пераклад на беларускую мову сусветнавядомых фільмаў («Пяты элемент», «Маска», «Ісус»), цяпер падрыхтаваў да выхаду папулярны фільм Мэла Гібсана «Адважнае сэрца». Па словах перакладчыкаў, такі выбар не выпадковы. Справа ў тым, што дзея фільма адбываецца ў акупаванай англічанамі Шатландыі 13 стагоддзя. З'явіўся герой, які ўзняў народ на барацьбу за вызваленне і атрымаў перамогу. «Фільм павінен натхніць маладых людзей на змаганне за незалежнасць Беларусі, умацаваць іх веру ў сваю сілу перад вясной-2000», – кажа Віталь Станішэўскі, адзін з заснавальнікаў Беларускага відэаклуба.

Касету, кошт якой складае 2.050 дэнамінаваных рублёў, можна замовіць па тэл. 213-43-52. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК



Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1755 Нумар падпісаны ў друк 16/03/2000 (15:00) Наклад – 6.450